# СЛОНІМСКІ КРАЙ

**№ 1, люты 2016**

**Краязнаўчы бюлетэнь**




## У НУМАРЫ:

### Слонімскія скарбы

Слонімшчына – край багацця̆ў і закапаных скарбаў, якія людзі хавалі далей ад небяспекі.

*Чытайце на стар. 2*

### Да пытання існавання ў Слоніме падземных тунэляў

З паўтара дзясятка вядомых нам фактаў выяўлення ў Слоніме падземных тунэляў, даследаванне праводзілася толькі ў адным выпадку.

*Чытайце на стар. 4*

### Лёс старажытных слонімскіх скарбаў

Беларусь - адзіная краіна ў свеце, краіна-выключэнне, дзе нацыянальных культурных скарбаў, матэрыяльных і духоўных, на Радзіме меней, чым за яе межамі.

*Чытайце на стар. 6*

### Далетапісная гісторыя Слоніма

У Слоніма маецца свой міфічны перыяд, які адносіцца да часу яго першай згадкі ў Іпацьеўскім летапісе, з якой традыцыйна пачынаюць гісторыю горада.

*Чытайце на стар. 9*

### Таемныя пахаванні пад Сынковіцкай царквой

У 1889 годзе ў Сынковіцкай царкве, пры здыманні цаглянай падлогі і насцілцы новай, у сцяне былі выяўлены два сумежныя каменныя склепы.

*Чытайце на стар. 11*

- Што такое Слонімшчына?
- Гэта наша Беларусь!
- Што такое Беларусь?
- Гэта наша Ўсё!

## *Ад рэдакцыі*

Вось і дачакаліся мы гэтай падзеі. Слонімшчына, нарэшце, мае сваё краязнаўчае выданне! Сціплае, яшчэ ў нечым недасканалае, але зробленае з шчырай любоўю да нашай слонімскай зямлі, да яе гісторыі. Яно з'явілася, дзякуючы намаганням некалькіх краязнаўцаў. Хтосьці з нас жыве ў Слоніме, кагосьці лёс закінуў у іншыя гарады Беларусі, але сувязь з родным горадам з-за гэтага не губляецца.

У 2000 годзе з'явіліся два нумары краязнаўчага квартальніка "Слонімскі край". На жаль, ён тады спыніў свой выхад і ўжо не аднавіўся. Нашае выданне — новае. Пакуль мы не маем магчымасці рабіць часопіс, выдаем бюлетэнь. Спадзяемся, што зробім яго перыядычным выданнем, цікавым для слонімцаў, якія хочуць ведаць пра мінуўшчыну свайго краю.

"Слонімскі край" з'явіўся не на пустым месцы. Перад намі працавалі такія краязнаўцы, як Язэп Стаброўскі, Гальяш Ляўковіч, Годэль Гольдберг, Віктар Клімкевіч, Сяргей Новік, Васіль Супрун, Міхаіл Рылко ды шмат іншых. Іх напрацоўкі, планы, ідэі будуць намі ўлічвацца, развівацца. Спадзяемся, гэтая повязь, пераемнасць захаваецца і ў будучыні.

Наша зямля багатая на помнікі, знакамітых людзей і гістарычныя падзеі. З небыцця вяртаюцца шматлікія старонкі айчыннай гісторыі, у выніку чаго высвятляецца, што край наш хавае яшчэ шмат таямніц.

Некаторыя нумары "СК" будуць тэматычныя. Тэма гэтага нумару — "Таямніцы слонімскай гісторыі".

Рэдакцыя заклікае да супрацоўніцтва краязнаўцаў, даследчыкаў. Чакаем вашых матэрыялаў. Кожны слонімец, дзе б ён не жыў, можа падзяліцца на старонках нашага выдання сваімі разважаннямі, успамінамі пра сваю малую радзіму.

***

Замовы на атрыманне электроннай версіі "СК" дасылайце на нашу пошту: slonimskikraj@gmail.com



# Слонімскія скарбы

У 1880 годзе селянін вёскі Хадзявічы Аўгустын Баль калі араў свой агарод, знайшоў гаршчок з залатымі і сярэбранымі манетамі[1]. Гэта быў далёка не першы і дакладна не апошні выпадак знаходжання скарбаў на нашай зямлі.



Слонімшчына – край багаццяў і закапаных скарбаў, якія людзі хавалі падалей ад небяспекі. Адныя з іх былі прыхаваныя да пэўнага часу, напрыклад у вайну, на другія ж накладаліся закляцці і тыя станавіліся заклятымі грашыма. Лічылася, што заклятыя скарбы будуць ляжаць у зямлі столькі гадоў, на колькі іх закопваў уладальнік. А як выляжаць свой час, то выходзяць наверх і паказваюцца каму шчасліваму. Але калі гэты чалавек не мае розуму, каб гэта зразумець ці, яшчэ горш, спалохаецца, то грошы зноў ідуць у зямлю на столькі гадоў, колькі да гэтага там ляжалі. Такія скарбы ахоўваліся нячыстай сілай, і калі ноччу чалавек бачыў у лесе, полі ці на балоце агеньчыкі, то лічыў, што гэта чорт перахоўваў грошы ў іншае месца. Нават на падаючыя зоркі нашыя продкі глядзелі, як на гаршкі з золатам, якія ўначы пераносілі цмокі.

Багата паданняў пра схаваныя грошы захавалася ў народнай памяці. У пазамінулым стагоддзі сяляне вёскі Ягнешчыцы пераказвалі легенду пра існаванне скарбу ў бярозавым лесе каля вясковых могліц. Таксама існавала легенда пра існаванне скарбу пад адным са слупоў Сынковіцкай царквы, прыхаванага казакамі падчас набегаў на Беларусь у час адной з войнаў з Масковіяй.

Шмат скарбаў было закапана на Беларусі. Гродзеншчына вельмі багатая на іх. Адзін з самых першых пісьмова датаваных скарбаў колішняй Гродзенскай губерні – знаходка ў 1825 годзе 38 манет 1620-1627 ў горадзе Кнышыне пры раскапванні фундамента касцёла[2]. Самыя старажытныя скарбы на Гарадзеншчыне датуюцца IX-X ст. Гэта два скарбы арабскіх дырхемаў, знойдзеныя з розніцай у 16 гадоў (першы – у 1971), у в. Ракаўцы Смаргонскага раёна. А самы вялікі ў рэспубліцы скарб быў знойдзены на прысядзібным участку ў в. Лікоўка Гродзенскага раёна, дзе выяўлены гліняны гаршчок з 6994 манетамі XVI – XVII ст. вагою ў амаль 10 кг.




*Дэнарый Траяна. Рым. 98-117 гг. Знойдзены ў Дзятлаве*

Толькі за апошнія паўтары стагоддзі ў межах Гродзенскай вобласці адкрыта 210 манетных скарбаў, сярод якіх значная частка паходзіць са Слонімшчыны. У асноўным гэта выкапаныя падчас сельскагаспадарчых прац або пры будаўніцтве гаршкі з грашыма, змест якіх адрозніваўся ў залежнасці ад часу і мэты, для якой яны былі схаваныя. Гэта магла быць разбойніцкая скарбніца ці царкоўная каса, гандлёвы прыбытак, заробак воіна або вайсковая здабыча, адкладзеныя на выпадак патрэбы ў грашах або ў сувязі са шматлікімі войнамі, якія завірухаю праносіліся па Беларусі.

Яшчэ часцей з'яўляюцца паведамленні пра знойдзеныя на нашай зямлі старыя манеты, якія могуць быць рэшткамі колішніх скарбаў. Прычым сярод іх трапляюцца не толькі тутэйшыя, але і завезеныя да нас у часы далёкіх імперый старажытнасці, прыкладу знойдзенай ў 2012 годзе каля Азярніцы драхмы з Парфіі часоў цара Фраата IV (38 г. да н.э. – 2 г. н.э.). Нярэдкімі знаходкамі з'яўляюцца манеты часоў Рымскай імперыі. Яшчэ ў канцы XIX ст. на тэрыторыі Слонімскага павета адзін селянін знайшоў скарб рымскіх манет, з якіх мяшчанін Шапіра набыў 44 дэнарыя: Веспасіана, Адрыяна, Антаніна Пія, Фаусціны Ст., Марка Аўрэлія, Фаўсціны Мал., Луцыя Вера і Каммода. Трапляюцца яны да нашага часу. Так у 2009 годзе каля Галынкі быў знойдзены

дэнарый імператара Нерона (66-67 гг.), у 2010 каля Вераб'евіч дэнарый Веспасіана (69-71 гг.)[3], у Дзятлаве – дэнарый Траяна (98-117 гг.), каля Сянькоўшчыны ў 2011 – сестэрцый Юліі Маммэі (222-235), а каля в. Шышкі ў 2012 г. быў знойдзены дэнарый Антаніна Пія (143-144). Рымскія манеты – даволі частыя знаходкі на слонімскай зямлі, што сведчыць перш за ўсё пра значэнне ракі Шчары, якая з даўніх часоў была важнай гандлёвай артэрыяй.

Аднак найчасцей трапляюцца ў нас скарбы, датаваныя XVII – пачаткам XVIII вв. У гэты перыяд Слонімшчына вылучалася высокім эканамічным развіццём і наяўнасцю буйных гандлёвых шляхоў, што садзейнічала з'яўленню ў мясцовых жыхароў свабоднага капіталу, які яны імкнуліся адкласці і прыхаваць на "чорны дзень". Але пазней, па шэрагу розных прычын (смерць, бежанства) так і не змаглі імі скарыстацца. Так, у 1879 годзе селянін вёскі Клімавічы Сямён



*Драхма цара Фраата IV. Парфія 38 г. да н.э. - 2 г. н.э. Знойдзена каля Азярніцы*

Белянкевіч знайшоў у зямлі гліняны гаршчок з дваццацю фунтамі розных срэбраных манет, частку якіх даслаў у Імперскую Археалагічную камісію ў Пецярбург. Гэта была адмысловая ўстанова, створаная ў 1859 годзе для даследавання манетных скарбаў, знойдзеных на тэрыторыі Расійскай імперыі. Найбольш цікавыя манеты з камісіі нават траплялі ў Эрмітаж.

У XIX стагоддзі ў мястэчку



*Дэнарый Веспасіана. Рым, 69-71 гг. Знойдзены каля в. Вераб'евічы*

Дварэц пры рыцці калодзежа быў знойдзены гліняны гаршчок з дзесяццю галандскімі талерамі і рускімі сярэбранымі манетамі: "70 целковых, 17 полтинников, 5 полуполтинников"[4]. Усе манеты адносіліся да 1724-1757 гг.

Вялікім збіральнікам-нумізматам быў заснавальнік Слонімскага музея Іосіф Стаброўскі, які ў 1888 г. каля в. Любоўша (зараз тэрыторыя Баранавічаў) знайшоў 2 рымскіх дэнарыя I ст. н.э.[5] Многія сабраныя ім манеты і сёння захоўваюцца ў раённым музеі.

У 1954 годзе вялікі скарб быў знойдзены ў вёсцы Баяры Слонімскага раёна каля вялікага каменя на размытай пасля дажджу дарозе. У гліняным гаршку знаходзілася вялікая колькасць манет, з якіх захавалася толькі 1622 вагою ў два з паловай кілаграмы. Усе яны захоўваюцца ў Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі і адносяцца да часу XVI–XVII ст. Менавіта гэтым перыядам датуецца і скарб, знойдзены ў 1956 годзе ў в. Зачэпічы Дзятлаўскага раёна. У гліняным гаршку знаходзілася больш пяці тысяч манет, з якіх 2813 вагою ў 2,6 кг, сёння захоўваюцца ў Гродзенскім музеі. Яшчэ больш сотні – у Дзятлаўскім музеі. Але астатнія, на жаль, зніклі, у тым ліку рэдкія дротавыя капейкі Маскоўскай дзяржавы Фёдара Міхайлавіча (1584-1598) і Барыса Гадунова (1598-1605)[6].

Нягледзячы на прыведзеныя прыклады, унікальныя скарбы сустракаюцца вельмі рэдка. Большая частка знаходак – гэта гліняны гаршчок з некалькім дзесяткам невялікіх пацямнеўшых ад часу і бруду зеленаватых медных манет XVI–XVIII стст., кошт якіх у сучасным грашовым эквіваленце мізэрны – усяго некалькі дзесяткаў долараў. Залатыя манеты ў паўсядзённым жыцці ніколі не ўжываліся, аднак пра гэта звычайнаму чалавеку рэдка вядома. Таму скарбы ўспрымаюцца як магчымасць стаць багатым. Аднак, насамрэч, іх багацце – гэта значэнне для навукі, магчымасць вывучэння грашовай гаспадаркі свайго часу. Прычым каштоўныя не толькі манеты ў комплексе, усе разам, але і сам гаршчок або матэрыял, у які скарб завернуты, як і месца іх знаходкі. На жаль, не ўсе людзі гэта разумеюць і таму шматлікія скарбы, знойдзеныя на нашай зямлі, мёртвым грузам цяпер ляжаць у асабістых калекцыях.

***Васіль Герасімчык***

1. Покровский Ф.В. Археологическая карта Гродненской губернии. Вильна, 1895, с. 28.
2. Пискарёв А. Хронологическое обозрение пятидесяти подземных археологических находок в России, с 1820 по 1850 год // Записки Императорского Археологического общества. Т. III. Санкт-Петербург, 1850. - с. 79.
3. Сидорович, В. Новые находки античных монет в Белорусском Понеманье // Pieniądz – symbol – władza – wojna : wspólne dziedzictwo Europy. Warszawa, 2010. S. 42–52.
4. Покровский Ф.В. Археологическая карта Гродненской губернии, с. 16.
5. Стабровский И., К вопросу об стеклянных ископаемых шарах // Исторический Вестник, 1899, № 3, с. 1105.
6. Какареко В., Монетные клады Гродненщины // Нумизматический портал "Скарбонка" skarbonka.ru [Дата доступу: 05.11.2012].

# Да пытання існавання ў Слоніме падземных тунэляў

Легенды і паданні пра падземныя хады былі вельмі пашыраныя на Слонімшчыне ў савецкія часы. Прычына гэтага крыецца ў тым, што ў ваенныя і пасляваенныя гады некаторыя занядбаныя храмы ў горадзе сталі даступныя для "аматараў прыгодаў", якія і натрапілі на асобныя падземныя тунэлі і нават пабывалі ў іх. Таксама вядома, што некаторыя падземныя камунікацыі да пачатку 1950-х гадоў выкарыстоўвалі крымінальныя элементы. У далейшым асобныя фрагменты тунэляў адкрываліся падчас будаўнічых работ, пракладкі камунікацый у гістарычным цэнтры горада.[1] Аднак праўдзівыя расповеды сведкаў перапляліся з выдумкамі (расказы пра падземныя хады са Слоніма ў Жыровічы, Сынковічы і г. д.).



*Тунэль у раёне вуліцы Маякоўскага, 1970 г. Фота Васіля Супруна*

З паўтара дзясятка вядомых нам фактаў выяўлення ў Слоніме падземных тунэляў даследаванне праводзілася толькі ў адным выпадку. У 1970 годзе археолаг і краязнаўца Васіль Супрун аглядаў знойдзены ў раёне вуліцы Маякоўскага фрагмент падземнага тунэля "невядомага прызначэння". Ва ўсіх іншых выпадках падзямеллі альбо знішчаліся, альбо засыпаліся.

Аўтар гэтых радкоў праанілізаваў усе вядомыя факты, сведчанні на тэму слонімскіх падзямелляў. Ёсць падставы меркаваць, што ў Слоніме існавала сістэма падземных тунэляў. Яна звязвала паміж сабой каталіцкія храмы ў цэнтры горада і замак, які знаходзіўся на ўзвышшы каля цяперашняй Опернай вуліцы. Паколькі Слонім у сярэднявеччы не меў комплексу гарадскіх умацаванняў, іх ролю выконвалі мураваныя касцёлы, якія "паўкальцом размясціліся вакол замка".[2] Падземныя тунэлі відавочна былі створаныя не для нейкіх рытуальных мэтаў, тайнага перасоўвання манахаў, а для выкарыстання падчас абароны горада.

Калі ж для Слоніма з'явілася такая небяспека, што прымусіла кінуць немалыя рэсурсы для пракладкі падземных тунэляў? Падказку знаходзім у адной з публікацый В. Супруна: "Варта нагадаць, што згаданыя касцельныя і кляштарныя збудаванні ўзводзіліся для каталіцкіх місіянераў праз некалькі дзесяткаў гадоў пасля расійска-казацкіх ліхалеццяў, што ў 1655 годзе разбурылі слонімскі замак, пашкодзілі ўсе каталіцкія касцёлы і знішчылі іх служыцеляў. Сама архітэктура, вонкавы выгляд касцельных збудаванняў таго часу сведчаць аб уліку мінулай трагедыі".[3]

Сапраўды, трагічныя падзеі 1655-1660 гг., калі падчас вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай у нашым горадзе панавалі маскоўскія войскі, зрабілі вялізны адбітак на свядомасці людзей. Нават у Заходняй Еўропе ў той час выйшлі два "лятучыя лісткі" (правобраз газеты) на нямецкай мове, якія распавядалі пра разню, якую наладзілі ў Слоніме маскавіты.[4] Таму зусім магчыма, што пасля вызвалення горада, калі ішло аднаўленне спаленых і разбураных каталіцкіх храмаў, і была пабудаваная сетка падземных тунэляў. Гэта — 1660-я-1670-я гады. У пазнейшыя часы, калі жахі вайны сталі забывацца, такой неабходнасці ў іх ужо не было.

Сетка складалася з галоўнага гарадскога тунэля (тэрміналогія наша), які быў пракладзены паміж касцёламі канонікаў латэранскіх і бернардзінцаў (цяперашнія Свята-Прэабражэнскі сабор і Свята-Троіцкая царква), адгалінаванняў ад яго (малых тунэляў) і асобных падземных выхадаў з храмаў. Абследаваны В. Супруном падземны ход — гэта якраз малы тунэль. Апошні раз імаверны падземны выхад з храма быў выяўлены летам 2015 года ў раёне вуліцы Хлюпіна, але не даследаваўся. Сваю сетку тунэляў мела галоўная сінагога.

На наш погляд, з ініцыятывай будаўніцтва ў горадзе падземных камунікацый маглі выступіць прадстаўнікі ордэна канонікаў латэранскіх, якія былі

падтрыманыя прадстаўнікамі ордэна бернардзінцаў. Паколькі ішлі аднаўленчыя работы ў касцёлах і кляштарах, будаўнічы матэрыял быў, былі і майстры. Без дазволу магістрата нельга было праз увесь цэнтр горада выкапаць глыбокі роў (тунэлі пракладаліся адкрытым спосабам). Магчыма, што і слонімскі староста, адзін з герояў вызваленчай вайны Аляксандр Гіляры (Гіларый) Палубінскі (1627 — 1679) паўдзельнічаў у гэтым праекце.

Польская даследчыца Дарота Пірамідовіч піша, што аднаўленнем пашкоджанага падчас вайны касцёла канонікаў латэранскіх у Слоніме збіраўся заняцца нейкі італьянскі майстар з Кракава.[5] Анатоль Кулагін піша пра нейкага італьянскага архітэктара, які будаваў гэты храм і "першы на тэрыторыі Рэчы Паспалітай выкарыстаў плоскія скляпенні".[6] Ці не пра аднаго чалавека гаворка? І калі сапраўды італьянец працаваў у Слоніме і быў такім наватарам, ці не прапанавалі яму рэалізаваць праект пабудовы "падземнага Слоніма"?

***Сяргей Ёрш***

*Аўтар шукае фундатараў для выдання кнігі "Падземны Слонім".*

1. Больш падрабязна пра гэта гл.: Супрун В. Загадкі мінулага // За перамогу камунізму (Слонім), 1986, 17 траўня; Супрун В. Тунэль у Слоніме // Слонімскі край, 2000, № 2. с. 3-6; Ёрш С. Слонімскае падзямелле // Газета Слонімская, 1998, № 10(39), 6-12 сакавіка.

2. Караткевіч В., Кулагін А. Помнікі Слоніма. — Мінск: Навука і тэхніка, 1983. с. 14.

3. Слонімскі край, 2000, № 2. с. 4.

4. Касажэцкі К. Бітва пад Палонкай 28 чэрвеня 1660 г. // Беларускі гістарычны агляд, 2004, снежань. Том 11, сшыткі 1-2(20-21). с. 113.

5. Piramidowicz D. Fundacje zakonne Kazimierza Leona Sapiehy // Menotyra. Studies in Art (Vilnius), 2014, t. 21, № 4. с. 277-278.

6. Кулагін А. Каталіцкія храмы на Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. — Мінск: Беларуская энцыклапедыя, 2000. с. 196.

*Слонімскія краязнаўцы*

# Памяці Годэля Гольдберга



*Годэль Гольдберг*




Сярод слонімскіх краязнаўцаў міжваеннага часу (1921-1939 гады) вылучаецца постаць Годэля Гольдберга, яўрэйскага літаратара, публіцыста, гісторыка. Пра яго біяграфію вядома вельмі мала. Гольдберг нарадзіўся ў Слоніме ў 1905 годзе, атрымаў добрую адукацыю. Верагодна, вучыўся ў Варшаве, там жа нейкі час працаваў. Пазней ён вярнуўся ў родны горад, друкаваўся ў мясцовай яўрэйскай газеце "Słonimer wort" ("Слонімскае слова"). Гэта былі і вершы, і публіцыстыка, і гістарычныя даследаванні (напрыклад, у 1933 годзе — нарыс "Слонім на працягу стагоддзяў"). Галоўная праца Годэля Гольдберга — гэта яго цікавая польскамоўная кніга "Zarys dziejów miasta Słonima" (Słonim, 1934). Ён пісаў пра Слонім з павагай і любоўю.

Жыццё Годэля Гольдберга абарвалася ў гады Другой сусветнай вайны. Ён быў забіты нацыстамі ў жніўні 1942 года. Архіў краязнаўцы, яго рукапісы загінулі. Захаваліся толькі некалькі фотаздымкаў.

**С.Ё.**

*Старыя здымкі*

# Краязнаўцы ў музеі, 1940-1941 гады



Гэты здымак у 2008 годзе мне дала адсканаваць сланімчанка Ніна Пятроўна Лукашэйка (Сяменік). На ім — вучні першай беларускай школы на краязнаўчым гуртку ў музеі. Фота 1940-1941 гадоў. У верхнім радзе крайняя злева стаіць Н. Лукашэйка. Яе і шэраг іншых маладых людзей, якіх бачым на гэтым здымку, настаўнікі навучылі любіць Слонімшчыну, яе гісторыю яшчэ ў другой палове 1930-х у польскай гімназіі імя Т. Касцюшкі.

**С.Ё.**

# *Лёс старажытных слонімскіх скарбаў*

Доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс меў рацыю, калі сказаў, што “Беларусь з’яўляецца адзінай краінай у свеце, краінай-выключэннем, дзе нацыянальных культурных скарбаў, матэрыяльных і духоўных, на радзіме меней, чым за яе межамі.

Прычынай таму ваенныя навалы, што хвалямі пракочваліся праз нашу зямлю, і драпежніцкая палітыка суседзяў”.[1] У гэтым упэўніваўся і я асабіста, калі бачыў, напрыклад, старадаўнія слонімскія зборы ў музеях Польшчы, Швецыі, Літвы, Расіі. У адным з музеяў Вроцлава ўдалося мне знайсці слонімскую паштовую карэту, у Слупску ўбачыў слонімскія гадзіннікі, а ў шведскім горадзе Арэбра — фарфор і фаянс са Слоніма.


*У Слонімскім музеі*

Сёння вельмі цяжка і нават немагчыма пералічыць усе тыя нацыянальныя багацці, што стагоддзямі вывозіліся толькі, прыкладам, са Слонімскай зямлі ў блізкія і далёкія краіны свету.

Найбольш нашых скарбаў знікла падчас розных войнаў, перш за ўсё — у часе Першай і Другой сусветнай. На захад і ўсход захопніцкім шляхам вывозілі са Слонімшчыны каштоўныя кнігі, рукапісы, карціны, абразы, фотаздымкі, дываны, габелены, музычныя інструменты, крыжы, манеты, медалі, зброя, фарфор, фаянс, розныя вырабы з дрэва, золата, бронзы і срэбра. Шмат разоў рабаваліся слонімскі музей, архівы, Жыровіцкая семінарыя, палац Слізняў у вёсцы Дзевяткавічы, тэатр Агінскага ў Слоніме і палац Пуслоўскіх у Альбярціне. Рабаваліся таксама праваслаўныя, каталіцкія і уніяцкія храмы, мячэці, сінагогі і цэрквы іншых канфесій зямлі Слонімскай.


*Жыровічы. 1882 г. Малюнак*

У красавіку 1613 года пачалося будаўніцтва Жыровіцкага уніяцкага манастыра і царквы, дзе знаходзіўся цудатворны абраз Жыровіцкай Багародзіцы. Стваравў гэты найважнейшы рэлігійны асяродак Язафат Кунцэвіч, а яго фундатарамі былі Ян Мялешка, Даніла Солтан і Рыгор Трызна. Жыровіцкі абраз прыцягваў сотні тысяч пілігрымаў. Пасля далучэння Беларусі да Расіі Жыровічы адышлі да праваслаўнай царквы. Але на працягу чатырох стагоддзяў Жыровічы рабавалі чужынцы з захаду і з усходу, з поўдня і з поўначы. А рабаваць было што, бо ў манастыры знаходзілася вялікая бібліятэка, архіў і свая друкарня. А ў 1842 годзе біскуп Язэп Сямашка пачаў у Жыровіцкім манастыры спальваць уніяцкія старадрукі.

Напачатку кнігамі палілі печы, а пасля яны гарэлі ў вогнішчы на пляцы. На працягу 10 гадоў паводле загаду Сямашкі спалілі некалькі тысяч беларускіх уніяцкіх старадрукаў. А тыя, што не згарэлі, укралі і вывезлі ў іншыя дзяржавы. У архіве Санкт-Пецярбургскага аддзялення Інстытута гісторыі РАН сёння шмат цікавых дакументаў, якія маюць непасрэднае дачыненне да

гісторыі Жыровічаў. У фондзе былога прафесара Жыровіцкай духоўнай семінарыі Пракопа Нілавіча Дабрахотава (Максімава) значацца 2492 адзінкі захавання збораў на польскай, лацінскай і старабеларускай мовах.

Гэтыя сабраныя рарытэты Дабрахотаў вывез з Жыровічаў яшчэ ў 1845 годзе. Многія з іх і сёння захоўваюцца ў архіве ў Санкт-Пецярбурзе.

Беларускія літаратуразнаўцы і гісторыкі Адам Мальдзіс і Язэп Янушкевіч выявілі ў аддзеле рукапісаў фонду базыльянскіх манастыроў навуковай бібліятэкі НАН Украіны ў Львове матэрыялы на польскай мове пра апісанне цудаў у Жыровічах 1758 года, апісанне цудаў у манастырскай царкве ў Жыровічах 1620–1756 гадоў. А ў Нацыянальным дзяржаўным гістарычным архіве ў Львове гэтымі навукоўцамі знойдзены звесткі пра гісторыю царквы ў Слоніме, выяўлены кніга ўліку прыхаджан, якія спавядаліся ў царкве ў Жыровічах у 1791–1800 гадах, звесткі пра маёмасць манастыроў у Быцені і ў Жыровічах, матэрыялы базыльянскага манастыра ў Жыровічах, справаздача аб праверцы бібліятэкі Жыровіцкага вучылішча ў XIX стагоддзі, справа аб папаўненні бібліятэкі ў Жыровічах (XIX ст.) і справа пра уніяцкія кнігі, канфіскаваныя ў Жыровічах.

Акрамя Жыровіч, храмы розных канфесій рабаваліся і ў Слоніме. Пасля паўстання 1863 года руская царская ўлада пачала закрываць каталіцкія касцёлы. У снежні 1864 расфармавалі бібліятэку касцёла бернардзінцаў у Слоніме. Рукапісы і многія кнігі касцёла апынуліся ў Віленскай цэнтральнай публічнай бібліятэцы. А касцельная бібліятэка ў Слоніме тады складалася з 2774 тамоў, пераважна старадрукаў. Поўны каталог кніг за 1798 і 1845 гады на сённяшні дзень захоўваецца ў бібліятэцы Віленскага універсітэта. А ў Кракаве ў архіве айцоў канонікаў рэгулярных лютэранскіх захоўваецца рукапісны (без сігнатуры) каталог бібліятэкі слонімскага кляштара канонікаў лютэранскіх за 1705 год.

Вывезлі ў Львоў і ў Ватыкан увесь уніяцкі архіў з Альбярціна.

Сёння ў бібліятэцы Russicuma ў Італіі можна знайсці шмат дакументаў, кніг, фотаздымкаў, поўны збор часопіса "Да Злучэньня" і шэраг іншых матэрыялаў, якія расказваюць пра цэнтр уніяцкага руху ў перыяд міжваеннага дваццацігоддзя (1921–1939) у Альбярціне.

У сярэдзіне XIX ст. у вёсцы Дзявяткавічы на Слонімшчыне быў пабудаваны трохпавярховы палац прадстаўнікоў беларускага шляхецкага роду Слізняў у стылі рэтраготыка. На вялікі жаль, да сённяшняга часу палац Слізняў не збярогся, зніклі з яго ў невядомых кірунках тысячы каштоўнасцей, якія збіраліся Слізнямі на працягу трох стагоддзяў. Са зброевага пакою палаца знік цэлы арсенал старадаўняй зброі. Са шкляных шафаў прапалі каралеўскія прывілеі, тастаменты, інвентар, сямейная карэспандэнцыя і тысячы розных дакументаў, звязаных з жыццём і дзейнасцю Мялешкаў і Слізняў. Расцягнулі бібліятэку палаца, дзе знаходзіліся рэдкія старадаўнія выданні, хронікі, радзівілаўская Біблія, кнігі, выдадзеныя ў Рыме, Антверпене, Жэневе, творы французскіх класікаў, паэзія Вергілія і Гарацыя, слоўнікі і энцыклапедыі.

Невядома куды знікла мэбля антычных часоў, партрэты Слізняў і Тышкевічаў, фамільнае сталовае срэбра, фарфор, шкло, персідскія дываны. У жоўтым салоне на адной са сцен палаца вісела вялікае палатно работы Януара Сухадольскага "Напалоханыя коні перад навальніцаю" Дзе ўсё гэта цяпер?...


*Палац Слізняў у Навадзявяткавічах на малюнку Н. Орды*

Апусцеў у 1914–1944 гадах і палац Пуслоўскіх у Альбярціне.

Рабавалі яго бальшавікі і немцы. Сёе-тое Пуслоўскія змаглі вывезці ў Вялікабрытанію. Але большая частка іх багаццяў (абсталяванне прадпрыемстваў, калекцыі карцін, бронзавай і мармуровай скульптуры, гравюр і габеленаў, кнігі) паехалі ў Германію і Расію.

Газета "Тыдзень Польскі", якая выдавалася ў Лондане, змясціла ў 2004 годзе пад рубрыкай "На Крэсах" артыкул "Альбярцін" Р.Міроўскага, дзе падрабязна апісваецца сядзіба Пуслоўскіх у Альбярціне. Аўтар прыводзіць звесткі пра музейныя, архіўныя і бібліятэчныя каштоўнасці, якія захоўваліся ў мясцовым палацы. "Калекцыя карцін з Альбярціна магла б з поспехам экспанавацца ў многіх еўрапейскіх галерэях", — сцвярджае аўтар.

Тут знаходзіліся эскізы "Галоўкі" Леанарда да Вінчы, "Кентаўра" Рубенса, дзве карціны Пітэра Брэйгеля,

некалькі венецыянскіх партрэтаў. З польскіх мастакоў называюцца Шыман Чаховіч, Юліуш Косак, Францішак Жмурка. Апрача таго, у палацы былі сямейныя партрэты, выявы каралёў і гетманаў ВКЛ. На сценах размяшчалася вялікая калекцыя саксонскага і мясцовага фарфору. Бібліятэка магла ганарыцца польскімі і італьянскімі выданнямі XVII ст., энцыклапедыямі, атласамі і геаграфічнымі мапамі. Захоўваліся дакументы на пергаміне (некаторыя з XV ст.).

Паводле Р. Міроўскага, усе зборы ў час Першай сусветнай вайны, з пачаткам нямецкага наступлення, вывезлі з Альбярціна ў Маскву. На гэтым іх сляды губляюцца.

Згубіліся сляды і каштоўнасцей, вывезеных з палаца Льва Сапегі, а пасля з тэатра Агінскага са Слоніма.

Рабаваўся горад і ў сярэдзіне XIX ст. Міхась Скобла ў сваёй кнізе “Дзярэчынскі дыярыюш” піша: “У сьпісе сканфіскаванай зброі, якую перад адпраўкай у Пецярбург часова зьберагалі ў памяшканьні Слонімскага земскага суда, знаходзім дваццаць адно найменьне: штурмакі турэцкія й ангельскія, стрэльбы звычайныя й духавыя, пісталеты ангельскія й шаблі вугорскія, меч абасечны ў скураных похвах і нават спраўны лук”[2].

Знікалі каштоўнасці са Слоніма і ў XX ст. Але былі ў нашым старажытным горадзе людзі, якія іх і зберагалі ад рабаўнікоў. Гэта краязнавец, гісторык і археолаг Язэп Стаброўскі.

Дзякуючы яму, у верасні 1929 года на аснове ўласных археалагічных, нумізматычных, этнаграфічных і бібліяфільскіх калекцый быў адкрыты ў Слоніме краязнаўчы музей.

На жаль, большая частка каштоўных экспанатаў, сабраных Язэпам Стаброўскім, бясследна знікла. Разам з імі немцы вывезлі 180 карцін слонімскага мастака Антона Карніцкага, разрабавалі фотамайстэрню Юзэфа Шыманчыка, хату-музей Гальяша Леўчыка. З фотамайстэрні зніклі сотні негатываў і рэдкіх фотаздымкаў. З хаткі Леўчыка прапалі каштоўныя газеты, часопісы, кнігі, фотаздымкі, пісьмы, паштоўкі, рэлігійныя выданні, карціны беларускіх мастакоў, музычныя інструменты. Ды і саму гістарычную хатку знішчылі ў 60-х гадах мінулага стагоддзя. Вялікая слонімская калекцыя старажытнасцей Гальяша Леўчыка бясследна прапала і з варшаўскай кватэры, якая знаходзілася ў доме №50 на Кашыковай вуліцы.



*Альбярцін на малюнку Н. Орды*

Паціху знікалі каштоўнасці са Слоніма і ў пасляваенны час. Вось адзін невялікі прыклад, звязаны ўсё з тым жа Язэпам Стаброўскім.

...У 1812 годзе, калі адступала французская армія, у дом бабулі Стаброўскага забег паранены французскі афіцэр і папрасіў дапамогі. У знак падзякі ён падараваў мапу (карту) заходніх раёнаў Расійскай імперыі з пазначанымі мясцінамі, дзе французы захавалі нарабаваныя каштоўнасці. На жаль, да раніцы вайсковец напалеонаўскай арміі не дажыў. Стаброўскія яго пахавалі, а мапа засталася ім. Гэтую мапу бабуля Стаброўскага перадала сваёй дачцэ, а тая перад смерцю — свайму сыну Язэпу. Язэп Стаброўскі вельмі яе шанаваў і зберагаў.

Аднойчы ў 60-х гадах мінулага стагоддзя музей у Слоніме наведаў нехта Л.Аляксееў — супрацоўнік Інстытута археалогіі АН СССР. І Стаброўскі паказаў яму гэтую сямейную рэліквію.

Аляксееву яна адразу кінулася ў вочы. Але Стаброўскі мапу нікому не даваў. Тады Аляксееў пачаў наведвацца ў Слонім часцей, пакуль не выманіў у Язэпа Язэпавіча на невялікі тэрмін гэтую каштоўнасць нібыта для навуковых даследаванняў. З той пары няма ні Аляксеева, ні мапы. Стаброўскі некалькі разоў пісаў у Інстытут археалогіі, тэлефанаваў, але нічога не дабіўся — мапа знікла назаўсёды. І такіх прыкладаў можна прывесці вельмі шмат.

Сёння таксама са Слонімшчыны вывозяцца каштоўнасці, найперш з прыватных хатніх архіваў і калекцый. Людзі вязуць іх у Польшчу, Германію і ў Расію. Там прадаюць і дамоў вяртаюцца з грашыма. А грошы ідуць на жыццё ці на вучобу дзяцей і ўнукаў. Таму цяжка цяпер паверыць, што некалі нашая Бацькаўшчына і яе народ стануць жыць заможна, а ўкрадзеныя і вывезеныя ва ўсе канцы свету каштоўнасці пачнуць вяртацца ў Беларусь, і ў прыватнасці на Слонімшчыну.

***Сяргей Чыгрын***

1. 100 пытанняў з гісторыі Беларусі. Мн., 1993. с.73

2. Скобла М., Дзярэчынскі дыярыюш. Мн., 1999. с.74

# Далетапісная гісторыя Слоніма




У гісторыі кожнага народа багата белых плямаў, да таго ж саму гісторыю неаднаразова перапісвалі (і перапісваюць). У выніку многае з таго, што раней успрымалася як рэальнасць, сёння ператварылася не больш, чым у міф. У той жа час, міфы – гэта таксама спосаб тлумачэння рэчаіснасці, мінуўшчыны, месца чалавека ў акаляючым яго сусвеце.

У Слоніма маецца свой міфічны перыяд, які адносіцца да часу яго першай згадкі ў Іпацьеўскім летапісе, з якой традыцыйна пачынаюць гісторыю горада. Аднак пры больш пільнай увазе колішні 1252 год як пачатак Слоніма на паверку аказваецца 1249/1250: у самім летапісе гады не прастаўлены, а ў савецкі час яны былі вызначаныя не вельмі дакладна – з памылкаю ў 2 гады.

Яшчэ ў першай палове XX стагоддзя пачатак нашага горада вялі з 1040 года, а яго назва часта з'яўлялася на старонках гістарычных твораў з апісаннем "далетапісных" падзей, таму ўспрымаемых сёння як міфічныя.

Гісторыкі М.Балінськi і Т. Ліпіньскі ў 1846 годзе пісалі пра Слонім: "Невядомы яго пачатак, які цягнецца з даволі далёкіх стагоддзяў. Длугаш, так як і рускія і літоўскія летапісцы адзначае, што ўжо ў 1040 годзе, а таксама ў 1044 Яраслаў Вялікі, князь рускі, сын Уладзіміра, сустрэўся на слонімскіх палях з літвінамі і так важка іх перамог, што потым, захапіўшы адпаведна Літву да Нёмана, вымусіў яе да падпарадкавання на нейкі час"[1]. На гэты ўрывак у свой час актыўна спасылаліся вядомыя слонімскія краязнаўцы І. Стаброўскі, Б. Александровіч і Г. Гольдберг. Але гісторык В. Супрун звярнуў увагу на тое, што ў храніста Яна Длугаша (1415-1480), насамрэч, няма нічога пра Слонім пад гэтым годам, як не маецца ўпамінання пра "слонімскія палі" і ў "Аповесці мінулых часоў".

### Слонім у "Гісторыі" Тэадора Нарбута

Адкуль жа тады ўзнікла дата 1040 у адносінах да Слоніма? Яе называе вядомы гісторык Тэадор Нарбут (1784-1864) у дзевяцітомнай "Гісторыі літоўскага народа" (1835-1841). Як і шэраг іншых падзей, звязаных з нашым горадам.

Згодна яму ў 1040 годзе ў ваколіцах Слоніма адбылася бітва паміж кіеўскім князем Яраславам Мудрым і адным з літоўскіх князёў Кунасам, які загінуў у гэтай сутычцы[2]. Нарбут называе Яраслава Мудрага стваральнікам першых славянскіх гарадоў у Панёманні, пабудаваных на землях балцкіх плямён, сярод якіх вылучаліся яцвягі. Кіеўская Русь пашырала сферу свайго ўплыву і правадніком яе інтарэсаў на захопленых землях выступалі ствараемыя крэпасці, вакол якіх паступова ўзнікалі гарады. У 1038 годзе Яраслаў Мудры, згодна Нарбуту, упершыню выправіўся ў паход на яцвягаў, падчас якога і ўзнік Слонім.

На жаль, у "Аповесці мінулых гадоў" адсутнічаюць назвы паселішчаў, заснаваных у "Літве" уладаром Кіеўскай Русі пасля паходаў 1038 і 1040 гадоў. Некаторыя аўтары пазней пачалі адносіць гэтыя падзеі да 1036 года, аб чым у савецкія часы прысутнічала сведчанне на адным з падарожных знакаў пры ўездзе ў Слонім. Але гэтая дата не адпавядае рэчаіснасці, паколькі ў 1036 годзе Яраслаў Мудры быў заняты вайной з печанегамі і не меў ні магчымасцей, ні рэсурсаў, каб ваяваць са сваім войскам на другім канцы ўласнай дзяржавы.

У далейшым у ваколіцах горада адбываюцца некалькі бітваў паміж літоўскімі плямёнамі і войскамі Кіеўскай Русі. Адна з іх здарылася ў 1103 годзе, калі супольнае войска жмудзінаў, прусаў і яцвягаў на чале з Эрдзівілам, сынам літоўскага князя Мантвіла, захапіла Слонім і авалодала вялікімі абшарамі Кіеўскай Русі, у якой пачынаўся перыяд феадальнай раздробленасці.

У 1140 годзе з тэрыторыі Літвы і Жмудзі супольна з яцвягамі на горад Уладзімір, які знаходзіўся

ў Паўднёвай Русі быў накіраваны чарговы паход. Войска балцкіх плямён падзялілася на дзве часткі, адна з якіх на чале з князем Кукавойцісам была разбіта каля Мазыра. А другая на чале з князем Мантвілам пустошыла Турава-Пінскае княства. Парабаваўшы ваколіцы Турава і Навагрудка, літоўскія атрады рушылі ў адваротны бок з вялікай здабычай і размясціліся лагерам на ноч у ваколіцах Слоніма. Сюды ж падышлі русічы. Пачалася бітва, перамога ў якой хілілася на бок літоўцаў. Аднак нечакана для іх у тыле побач з абозам апынуўся атрад русічаў і спрытна напаў на варожыя войскі, якія былі цалкам разбітыя. Слонім зноў стаў адной з крэпасцяў Кіеўскай Русі, на якую пасля цяжкага паражэння балцкія плямёны доўгі час не здзяйснялі нападаў.

### Слонім у "Хроніцы" Мацея Стрыйкоўскага

Напрыканцы XII стагоддзя Кіеў канчаткова страціў сваё эканамічнае значэнне і заставаўся толькі сімвалам міфічнага адзінства. У гэты час на поўдні Русі з'яўляецца Галіцка-Валынскае княства, створанае энергічным князем Раманам Мсціслававічам. Ён мяняе вектар традыцыйнай палітыкі Русі з поўдня на захад. У 1205 годзе Раман арганізоўвае паход на тэрыторыю Польшчы, дзе 19 чэрвеня гіне ў бітве пад Завіхвостам, а на яго ўладанні нападаюць прыгнечаныя суседзі. Сярод іх былі і літоўскія плямёны, апісанне нападу якіх змясціў у сваёй хроніцы 1582-га года першы гісторык дзяржавы нашых продкаў – Вялікага княства Літоўскага, Мацей Стрыйкоўскі (1547 - каля 1590).

Літоўскія плямёны пераправіліся праз Вілію, дзе да іх далучыліся жмудзь і яцвягі, якія пражывалі ў сярэднім цячэнні Нёмана. Затым накіраваліся на Навагрудскія валасці і папалілі тыя. Адтуль рушылі на сталіцу Галіцка-Валынскага княства Уладзімір, ваколіцы якога таксама спустошылі, як і суседні Луцк. Затым з вялікай здабычай накіраваліся ў адваротным накірунку. Іх праследавалі сабраныя галіцкія атрады, якія вымусілі рабаўнікоў змяніць маршрут руху, тым больш іх наганялі таксама войскі суседняга Чарнігаўскага княства, якім кіравалі князі з дынастыі Вольгавічаў. Здабыча замаруджвала перамяшчэнне і літоўскія атрады былі дагнаныя на тэрыторыі Слонімшчыны, дзе і адбылася бітва:

«А калі ў Сломінскіх палях Літва косам стала,

Хутка з галічанамі Русь на іх вырвалася,

З паганым гурмам бітву вялікую закацілі,

А літоўцы да іх таксама смела скочылі»[3].




Нагнаныя на адкрытай мясцовасці літоўцы развярнулі баявы парадак - дугападобную лінію ў форме касы, які наскокам конніцы разбіць не ўдалося. Завязалася доўгая бітва, перамогу ў якой галічане атрымалі ў выніку ўдара з тылу двума сваімі атрадамі.

У 1241 годзе новая пошасць напаткала землі Русі і Літвы – мангола-татары. Скарыстаўшыся спрэчкамі рускіх князёў, яны ўсталявалі ярмо над былой Кіеўскай Руссю, за выключэннем Беларускіх земляў, куды здзейснілі некалькі паходаў. Археолаг Іосіф Стаброўскі ў сваёй гісторыі Слоніма запісаў: "Нашэсце Батыя адлюстравалася на горадзе Слоніме. Орды Кайдана разбурылі і спалілі горад дашчэнту. Моладзь абодвух палоў пагналі з сабой. Дзяцей, старых і людзей сярэдняга ўзросту знішчылі, край спусцеў, у жывых засталіся толькі тыя, якія паспелі схавацца ў густых лясах, акружаючых Слонім"[4]. Згодна Стрыйкоўскаму, пасля таго як мангола-татарскі ваеначальнік Кайдан парабаваў землі Беларусі і рушыў са здабычаю на ўсход, яго пачалі праследаваць сумесныя войскі літоўскага князя Эрдзівіла з навагрудчанамі, слонімцамі і пінчанамі, якія рухаліся за варожым войскам, хаваючыся ў пушчах. Калі ж варожае войска дайшло да Дняпра і размясцілася ўвечары на адпачынак, то на світанні з моцным крэчам войскі славян і балтаў абрынуліся на лагер мангола-татар, якія не чакалі нападу. У выніку вораг быў разбіты, многія з іх патанулі ў палескіх балотах, Прыпяці і Дняпры. А захопленыя палонныя, у тым ліку жыхары Слоніма, былі вызваленыя і вернутыя на Радзіму.

Так скончваецца міфічны перыяд жыцця Слоніма, і пачынаецца летапісная яго гісторыя, якая бярэ свой пачатак з пахода 1249/1250 года галіцка-валынскіх князёў на гарады Панёмання – Ваўкавыск, Слонім, Здзітаў. У той жа час археалагічныя раскопкі, праведзеныя ў Слоніме, сведчаць, што як паселішча гарадскога тыпу з высокай матэрыяльнай культурай ён існаваў ужо ў XI стагоддзі, а ў другой палове XII стагоддзя з'яўляўся багатым і

добраўпарадкаваным горадам з шырокімі маставымі, добрымі дамамі з бярвення, высокай матэрыяльнай культурай, значнымі знешнімі сувязямі.

Але з-за таго, што шматлікія войны знішчылі вялікую колькасць старажытных крыніц, якія б маглі гэта пацвердзіць, вартым увагі становяцца працы гісторыкаў, што мелі магчымасць з імі папрацаваць. Сярод такіх асоб – М.Стрыйкоўскі і Т. Нарбут. І няхай іх факты ў адносінах Слоніма сумніўныя і носяць даволі блытаны характар, яны застаюцца спробаю даць тлумачэнне мінуламу нашага горада ў далетапісны яго перыяд і паказваюць яго значэнне як важнай вайсковай крэпасці. І, магчыма, нейкая з прыведзеных дат (а можа і ўсе яны разам) – 1040 ці 1038, 1103 ці 1205, або 1241 – з цягам часу ўвойдуць у скарбонку мінуўшчыны Слонімшчыны, пацверджаннем чаго з'яўляецца прыклад нашых суседзяў: 28 чэрвеня 1994 года на сесіі Ваўкавыскага гарадскога Савета дэпутатаў датай першага летапіснага ўспаміну Ваўкавыска прызнаны 1005 год, падставаю для чаго стала перш за ўсё яго археалагічная спадчына. Магчыма, што такі лёс калісьці напаткае і Слонім.

***Васіль Герасімчык***

1. Baliński M., Lipiński T., Starożytna Polska pod względem historycznym, jeograficznym i statystycznym. Warszawa. 1846. S.680.

2. Teodor Narbutt, Dzieje Starożytne Narodu Litewskiego. Tom II Wilno. 1835. S. 224.

3. Maciej Stryjkowski, Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i Wszystkiej Rusi. Warszawa. 1846. S. 215.

4. Стабровский И., История города, с. 1.

## *Таемныя пахаванні пад Сынковіцкай царквой*



*У 1893 годзе ў Вільні адбыўся IX-ы археалагічны з'езд, на якім з дакладам выступіў святар Яўстафій Міхайлоўскі. Ён паведаміў пра археалагічныя знаходкі на Слонімшчыне і пра таемныя пахаванні, знойдзеныя ім падчас рамонта Сынковіцкай царквы.*

У 1889 годзе ў Сынковіцкай царкве, пры здыманні цаглянай падлогі і насцілцы новай драўлянай, адкрыта мною ў паўднёвай сцяне два сумежныя каменныя склепы. Абодва яны зроблены з цэглы. Адзін з іх, які ўхіляецца да ўсходу, зусім згніў і праваліўся, а іншы, - у сярэдняй частцы храма, захаваўся цалкам. Уваход у яго быў завалены касцякамі, гнілымі аскепкамі дрэва ад трун і смеццем; па расчыстцы ж апынуўся каменны сход у некалькі прыступак, які вядзе ў склеп. Над склепам была ўмайстравана ў цаглянай падлозе каменная пліта, з пазнакаю на ёй 1829 ці 1329 гады. Яна зараз змешчана ўнізе лесвіцы ля ўвахода ў склеп. Даследаванне выявіла, што тут пахаваны не адзін дзясятак людзей: - яны хаваліся адзін на іншым і як бы выцяснялі адзін аднаго, доказам чаго служыць маса касцякоў, гнілых аскепкаў дрэва, смецця і іншых прадметаў, пакуль яшчэ не прыбраных адгэтуль. Вялікі жалезны лом, пры апусканні да долу, лёгка праходзіць праз усю гэту груду, значыць, глыбіня склепа - даволі значная. На паверхні ў склепе захавалася толькі адна невялікая труна з касцякамі і зусім спарахнелымі рэштками адзежы. Таксама даводзіцца сказаць і пра дзве вялікія дубовыя труны, змешчаныя ў склепе да часу і вынесеныя з новаадкрытай каморы, замураванага датуль у паўночна-усходняй вежы: у іх пакладзены мужчына і жанчына; але, акрамя прадметаў, адзначаных ва узгаданай невялікай труне, і праробленага ў адным з іх малога акенца, яны не ўяўляюць сабою нічога цікавага.

Археологические очерки Слонимского уезда Гродненской губ. св. Е. Михайловского // Труды Виленского отделения IX археологического съезда. Вильно, 1893. с. 175-176.

**(пераклаў В.Г.)**

## *Новае папулярна-асветніцкае выданне па гісторыі Слонімшчыны*

У мінскім выдавецтве «Кнігазбор» выйшла новая кніга Сяргея Чыгрына «125 пытанняў і адказаў з гісторыі Слонімшчыны». Яе мэта - папулярызацыя роднай гісторыі ў цікавай форме, якая стварае магчымасці для яе выкарыстання ў разнастайных вікторынах і гульнях па гісторыі Бацькаўшчыны. Яна прысвечана памяці Васіля Рыгоравіча Супруна (1926-2007), якому ў 2016 годзе споўнілася б 90 гадоў.




Менавіта кніга В. Супруна «100 пытанняў і адказаў з гісторыі Слонімшчыны», выдадзеная ў 2002 годзе, з'явілася прыкладам для новага выдання. Але гэта цалкам самастойная праца, якая мае цікавыя, змястоўныя, дакладныя пытанні і насычана ілюстрацыйным матэрыялам.

**В.Г.**

# Пра таямніцу псеўданіма паэта Пятра Дабрыяна



Слонімскі паэт Пётр Дабрыян (1916 — 1993) пакінуў нам таямніцу свайго першага псеўданіма. Літаратуразнаўцы ведаюць яго, як "Алеся Сучка". Гэты псеўданім прысутнічае і ў знакамітым "Слоўніку беларускіх псеўданімаў" Янкі Саламевіча. І якая ж была неспадзяванка, калі высветлілася, што свой першы верш "Я бачыў" Дабрыян надрукаваў пад іншым псеўданімам — "Андрэй Сучок" (Шлях моладзі (Вільня), 1938, 25 лістапада, № 24. С. 3). І гэта не памылка, бо і ў "Паштовай скрынцы" рэдакцыя пісала менавіта "Андрэю Сучку": "Здольнасьці маеце, толькі старайцеся іх лепш разьвіваць, чытаючы бел[арускіх] клясыкаў... З апошніх вершаў папраўіўшы адзін друкуем".

Андрэем Сучком быў падпісаны і верш "Зіма", апублікаваны ў "Шляху моладзі" 12 студзеня 1939-га. Наступны твор П. Дабрыян ужо падпісваў "А. Сучок". Толькі ў пасляваенны час ён стаў вядомы, як паэт "Алесь Сучок".

У перапісцы з літаратуразнаўцам Уладзімірам Калеснікам, якая захоўваецца ў мінскім архіве, Пётр Дабрыян згадвае свае першыя вершы, "Шлях моладзі", арышт у лютым 1939 года, які перарваў творчую дзейнасць, але, на жаль, нічога не піша пра псеўданім.

**С.Ё.**

Я БАЧЫЎ

*Я бачыў, заходзіла сонца,*
*З загоркі глядзела яно*
*І міла прыгожа бязконца*
*Сьвяціла й сьвяціла ў вакно.*
*І падалі ў душу праменьні,*
*У сэрца мне сілы лілі,*
*А ў сэрцы ўставалі імкненьні*
*й да сонца плылі і плылі...*
*Рваліся думы бязконца,*
*й ляцелі ў далёкі прастор!*
*За мілымі косамі сонца*
*Да ўспыхнуўшых зьяючых зор!*
*Андрэй СУЧОК.*

## Каляндар

### Люты

**8 лютага** (26 студзеня па старым стылі) 1914 года ў Баранавічах нарадзіўся паэт Валянцін Таўлай. З 1920 года яго сям'я жыла ў в. Рудаўка Слонімскага раёна (на радзіме бацькі). Памёр 27 чэрвеня 1947 г. у Мінску, пахаваны на вайсковых могілках.

**11 лютага** 2002 года адбылася аб'яднаная сесія Слонімскіх гарадскога і раённага Саветаў дэпутатаў, на якой утварыўся адзіны раённы Савет дэпутатаў. За месяц да гэтага, паводле ўказу кіраўніка дзяржавы, г. Слонім і Слонімскі раён былі аб'яднаныя ў адну адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку.

**12 лютага** 1987 года ў в. Васілевічы нарадзіўся гісторык і краязнавец Васіль Герасімчык.

**13 лютага** 1806 года ў Слоніме нарадзіўся паэт і перакладнік Юліян Корсак. Памёр 30 жніўня 1885 г. у Навагрудку.

**14 лютага** 1956 года ў в. Кастровічы нарадзіўся пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік. Жыве ў Мінску.

**19 лютага** 1920 года ў расійскім горадзе Арэнбург (туды з вёскі Ашнаравічы ў бежанства выехала сям'я) нарадзіўся слонімскі краязнаўца, настаўнік, заслужаны работнік культуры Беларусі Аляксандр Жукоўскі. Ён стварыў народны музей пры СШ № 4 г. Слоніма, які цяпер носіць яго імя. Памёр у 1995 годзе.

**22 лютага** 1912 года пачала дзейнічаць тэлефонная сетка Слонімскага павета.

**22 лютага** 1932 года ў в. Чамяры нарадзіўся Іван Міско, вядомы скульптар. Жыве ў Мінску.

**24 лютага** 1927 года на хутары на поўдні Слонімшчыны нарадзілася Надзея Дземідовіч, шматгадовы вязень сталінскіх лагероў, аўтарка некалькіх кніг успамінаў і вершаў. Жыве ў Калодзішчах пад Мінскам.

**25 лютага** 1909 года ў Слоніме нарадзіўся паэт Сяргей Дарожны (сапраўднае прозвішча Серада). Быў рэпрэсіраваны, загінуў у зняволенні ў Камсамольску-на-Амуры 19 ліпеня 1943 года.

**25 лютага** 1986 года адкрыўся музей СШ № 10 "Горад Слонім і яго героі".

**28 лютага** 1942 года ў блакадным Ленінградзе памёр ад голаду славіст, літаратуразнавец, філолаг, перакладчык Канстанцін Пушкарэвіч. Ён нарадзіўся ў Слоніме 3 лістапада 1890 года.

**29 лютага** 1972 года ў Слоніме нарадзіўся гісторык, краязнаўца, журналіст Сяргей Ёрш. Жыве ў Мінску.

**Слонімскі край**
Краязнаўчы бюлетэнь
Выдаецца з лютага 2016 года

Адрас для карэспандэнцыі:
slonimskikraj@gmail.com

Наклад 100 асобнікаў

Заснавальнікі і выдаўцы:
Васіль Герасімчык
(рэдактар нумару)
Сяргей Ёрш
Сяргей Чыгрын